**ПРЫСУД БЯЛЯЦКАМУ**



РАШЭННЕ СУДА БЕЗ ЗМЕНАЎ

СТАР. 2

веснік ПРАВАБАРОНЧЫ

№1
01.2012

**"INTEX-PRESS"**

РАЗДРАЖНЯЕ ГАРАДЗКІЯ ЎЛАДЫ




СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# ГРОШЫ ДЛЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА САБРАНЫЯ

**Генадзь КЕСНЕР**

Неабходныя для выплаты так званай шкоды, якую нібыта нанёс дзяржаве кіраўнік зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтра "Вясна", віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі, сабраныя. Людзі адгукнуліся на заклік праваабаронцаў і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і пералічылі на рахунак жонкі асуджанага старшыні "Вясны" больш за 757 мільёнаў рублёў (каля 90 тысяч долараў).

Алеся Бяляцкі 24 лістапада мінулага года быў прыгавораны судом Першамайскага раёна Мінска да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Па меркаванню праваабаронцаў, суд беспадстаўна прызнаў Бяляцкага вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры, нягледзячы на доказы, што замежныя сродкі накіроўваліся не на ягоную карысць, а выключна на вызначаныя мэты праваабарончай дзейнасці, таму гэтыя сродкі не з'яўляліся аб'ектам падаткаабкладання. Нягледзячы на гэта, суд прызнаў грошы, накіраваныя Праваабарончаму цэнтру "Вясна" ў якасці дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэнняў правоў чалавека, асабістым прыбыткам Алеся Бяляцкага. Раней Міністэрства юстыцыі Літвы перадала звесткі пра замежны рахунак Бяляцкага беларускім уладам.

У звязку з асуджэннем вядомага ў свеце праваабаронцы прадстаўнікі няўрадавых арганізацый заклікалі беларускае грамадства праявіць салідарнасць з Алесем Бяляцкім і Праваабарончым цэнтрам "Вясна", які ў экстрэмальных умовах больш за 15 гадоў бароніць правы беларускіх грамадзян. З мэтай найхутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага ці як мінімум змены меры стрымання альбо змякчэння надзвычай жорсткага прысуду і была распачата кампанія па збору сродкаў, якія былі прысуджаныя Алесю Бяляцкаму да выплаты ў якасці "шкоды, нанесенай злачынствам". Гэтую суму важна ўнесці да разгляду касацыйнай скаргі ў Мінскім гарадскім судзе, што і мусіць быць зроблена найбліжэйшым часам.



Як паведаміў "НЧ" юрыст "Вясны" Уладзімір Лабковіч, у найбліжэйшую сераду жонка Бяляцкага Наталля Пінчук наведае банк, і ў гэты ж дзень плануецца пераводзіць іх на адпаведны дзяржаўны рахунак. "Мы зараз спрабуем даведацца рахунак Мінскага гарадского суда, на які павінны быць пераведзены сабраныя грошы", — сказаў Лабковіч.

Што да магчымасці вызвалення ці змякчэння прысуду Бяляцкаму пасля пераводу грошай (кіраўнік дзяржавы неаднойчы падкрэсліваў: вярнулі дзяржаве ўрон ці шкоду — выйшлі на свабоду), то ў дадзеным выпадку, па словах праваабаронцы, пытанне не юрыдычнае, а чыста палітычнае. "Рашэнне будзе прымацца выключна сыходзячы з палітычнай мэтазгоднасці. Па судовай практыцы, якая склалася ў Беларусі, калі б гэта не тычылася канкрэтна палітычнай справы Бяляцкага, а нейкага эканамічнага злачынства, то ўнясенне грошай так званай шкоды, безумоўна, вельмі радыкальна ўплывала на судовы прыгавор. У такіх выпадках часта выкарыстоўваюцца судовыя вердыкты, не звязаныя з пазбаўленнем волі. Але сітуацыя з Бяляцкім, відаць, будзе вырашацца, верагодна, сыходзячы выключна з палітычных меркаванняў", — падкрэсліў Уладзімір Лабковіч.

www.novychas.org

Дэкларацыя парламентарыяў Рады Еўропы ў падтрымку вылучэння Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру




Doc.12854 25 студзеня 2012

У падтрымку прысуджэння Нобелеўскай прэміі міру беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму

Пісьмовая дэкларацыя № 508

Гэтая дэкларацыя закранае толькі яе падпісантаў.

Мы, парламентарыі краінаўудзельніц Рады Еўропы, рашуча падтрымліваем ідэю ўзнагароджання Нобелеўскай прэміяй міру выбітнага беларускага дзеяча і праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

Алесь Бяляцкі, асуджаны да 4,5 гадоў зняволення, ніколі не быў палітыкам. Адзіная яго «віна» ў тым, што, будучы чулым чалавекам, ён знаходзіўся побач з ахвярамі антыдэмакратычнага рэжыму, дапамагаў ім і клапаціўся пра іх сем'і. Мы патрабуем яго вызвалення.

Народ Свабоднай Еўропы ніколі не пакіне грамадзянаў Беларусі, якія маюць поўнае права карыстацца такімі ж правамі, як мы.

EPP/CD: Група Еўрапейскай Народнай Партыі; SOC: Сацыялістычная Група; ALDE: Альянс Лібералаў і Дэмакратаў за Еўропу ...

Усяго 41 подпіс.

www.spring96.org

## "Вясна" ні на хвіліну не спыніць сваю працу!



Нягледзячы на сённяшняе-вызначэнне Менскага гарадскога суда, Праваабарончы цэнтр "Вясна" працягне сваю працу ў поўным аб'ёме і пакуль яшчэ ў тым жа памяшканні, у якім знаходзіўся дагэтуль.

"Мы, безумоўна, прагназавалі такое развіццё падзеяў. Аднак мы не бачым падставаў для таго, каб наш офіс бліжэйшым часам быў канфіскаваны. І нават у сітуацыі, калі праз некаторы час, магчыма, у нас яго адбяруць, мы пастараемся як мага хутчэй знайсці ўсе магчымасці, каб стала працягнуць працу ў іншым памяшканні", - адзначае сябра Рады арганізацыі Уладзімір Лабковіч.

Праваабаронцы неаднаразова заяўлялі, што любыя віды пераследу, затрыманні, арышты, канфіскацыі ніколі не спыняць працу "Вясны", паколькі яна надзвычай важная і патрэбная беларускаму грамадству.

# ПРЫСУД БЯЛЯЦКАМУ – БЕЗ ЗМЕНАЎ



Менскі гарадскі суд не задаволіў касацыйнай скаргі на вырак праваабаронцу Алесю Бяляцкаму ды пакінуў рашэнне суда без зменаў.

Самога Бяляцкага ў суд не прывезлі. Акрамя сваякоў праваабаронцаў у зале паседжання было шмат журналістаў, грамадскіх актывістаў, замежных дыпламатаў. Фотакарэспандэнтам забаранілі весці здымкі.

Адвакат Дзмітрый Лаеўскі на пачатку працэсу заявіў шэсць хадайніцтваў:

– выклікаць у суд Бяляцкага;

– запатрабаваць у арганізацыяў, з якімі працаваў Бяляцкі, прычыны пераводу на ягоны рахунак грашовых сродкаў, а таксама высветліць, ці былі ў Бяляцкага дамоўленасці пра выкананне пэўных дзеянняў з гэтымі сродкамі;

– прыкласці да матэрыялаў крымінальнай справы плацежныя даручэнні аб пераліку на рахунак суда Першамайскага раёну Менску сумы стратаў, якія нібыта нанёс Бяляцкі ды якія кампенсавала на мінулым тыдні грамадскасць;

– прыкласці да справы копіі дакументаў аб набыцці Бяляцкім маёмасці;

– адкласці разгляд касацыйнай скаргі датуль, пакуль не пададуць дакументаў пра рух грашовых сродкаў на рахунках Бяляцкага;

– адмяніць цяперашнюю захаду стрымання Бяляцкаму – утрыманне пад вартаю.

Трэцяе і чацвёртае хадайніцтвы адваката (аб прыкладанні плацежнага даручэння пра пералік сумы стратаў і копіяў дакументаў аб набыцці Бяляцкім маёмасці) суд задаволіў адразу, а рэшту адхіліў.

Адвакат падтрымаў касацыйную скаргу Бяляцкага. Лаеўскі заявіў, што не вызначаныя суб'екты даходу, а таксама характар і дамоўленасці Бяляцкага пры атрыманні сродкаў. Такім чынам, высновa суда пра тое, што пералічаныя Бяляцкаму сумы – ягоная ўзнагарода, не слушная.

Адвакат таксама адзначыў, што пры вынясенні прысуду былі выкарыстаныя недапушчальныя доказы і не быў даследаваны шэраг дакументаў, – ліст Міністэрства юстыцыі Літвы пра тое, што перададзеныя беларускаму боку звесткі пра банкаўскі рахунак Бяляцкага няправільныя і несапраўдныя.

На гэтай падставе адвакат папрасіў прысуд скасаваць, а крымінальную справу Бяляцкага – спыніць.

У сваю чаргу пракурор Кірыл Чубкавец заявіў, што суд даследаваў усе магчымыя доказы. Паводле яго, Бяляцкі ведаў пра неабходнасць плаціць падаткі з атрыманых сумаў і свядома гэтага не рабіў. Таму, лічыць Чубкавец, касацыйная скарга Бяляцкага не можа быць задаволеная.

www.belsat.eu

## Вярхоўны суд палічыў прысуд Севярынцу справядлівым

Вярхоўны суд Беларусі палічыў законным і справядлівым прысуд, вынесены 16 траўня 2011 года сустаршыне аргкамітэту па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Паўлу Севярынцу.

Пра гэта маці палітвязня Таццяне Севярынец паведаміў яго адвакат Вадзім Мушынскі.

www.spring96.org

## Старшыня АБСЕ заклікае вызваліць Алеся Бяляцкага



Старшыня АБСЕ сп. Эйман Гілмар выказаў шкадаванне з нагоды адмовы ў задавальненні касацыйнай скаргі на прысуд старшыні ПЦ "Вясна" Алесю Бяляцкаму.

"Чалавека нельга пераследаваць за абарону правоў чалавека. Гэтая справа – прыкрае адлюстраванне стану правоў чалавека ў Беларусі і вынік абмежаванняў свабоды асацыяцыяў у краіне. Я заклікаю беларускія ўлады неадкладна вызваліць Алеся Бяляцкага, а таксама ўсіх астатніх актывістаў грамадзянскай супольнасці і палітычных апанентаў", – адзначыў старшыня АБСЕ, які адначасова з'яўляецца Міністрам замежных справаў Ірландыі.

Пры гэтым сп. Гілмар дадаў, што "няспыннае разбурэнне правоў чалавека ў краіне выклікае вялікую занепакоенасць. Пераследуючы праваабаронцаў і абмяжоўваючы свабоду асацыяцыяў, Беларусь парушае свае абавязальніцтвы ў межах АБСЕ".

www.spring96.org

# У баранавіцкай газеты “Intex-press” узніклі цяжкасці




У пачатку Новага 2012 года ў гарадской недзяржаўнай газеты “Intex-press” ўзніклі цяжкасці, якія сталі абсалютна нечаканымі. Цяпер для ўдзелу ў пасяджэннях Баранавіцкага гарвыканкама акрэдытаваны толькі адзін чалавек – галоўны рэдактар выдання Уладзімір Януковіч. У мінулыя гады такога абмежавання не існавала і журналісты газеты рэгулярна прысутнічалі на пасяджэннях гарвыканкама. Таксама ў выдання нечакана ўзніклі складанасці ў супрацоўніцтве з Баранавіцкім гарадскім аддзелам унутраных спраў. Карэспандэнтку выдання Наталлю Семяновіч, якая асвятляе крымінальную тэматыку, праінфармавалі, што міліцыя больш не будзе даваць інфармацыю недзяржаўнаму выданню.

Адзіная незалежная газета “Intex-press” аб’ектыўна асвятляла прэзідэнцкія выбары ў 2010 годзе, маўклівыя акцыі летам 2011г., падрыхтоўку і правядзенне мясцовага сходу 8 кастрычніка, паведамляла пра забарону ўсіх пікетаў і мітынгаў, што раздражняла гарадскія ўлады.

Такім чынам, гарвыканкам і міліцыя скарацілі да мінімуму супрацоўніцтва з незалежнай газетай “Intex-press”.

# Барановичские власти не разрешили митинг предпринимателей

Чиновники утверждают, что заявитель нарушил статьи 2 и 5 Закона РБ о массовых мероприятиях.

Документы для получения разрешения на проведение митинга подавал активист Николай Черноус. Ответ, подписанный заместителем председателя горисполкома Дмитрием Костюкевичем, он получил вчера, сообщает «Еврорадио».

Напомним, что Николай Черноус с соратниками хотел провести 19 января митинг, в котором планировалось участие 600 предпринимателей. На 25 января Черноус планировал пикет представителей украинской диаспоры под лозунгом «Власти против дружбы народов».

# Мікола Чарнавус просіць пракурора прызнаць незаконнымі перавыбары Рады цэнтральнага кірмашу горада



У чацвер 12 студзеня прадпрымальнік Мікалай Чарнавус напісаў заяву пракурору Баранавіцкага раёна, у якой паведаміў, што ў снежні 2011 года адміністрацыя Баранавіцкага цэнтральнага кірмашу праводзіла перавыбары Рады – грамадскага кіруючага органа, які складаецца з прадпрымальнікаў. 29 снежня “адбыўся” агульны сход, які абраў Раду кірмашу пераважна з прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі. Абсалютная большасць прадпрымальнікаў не толькі не ведала аб месцы і часе, але і не былі запрошаны на гэты сход.

- Я накіраваў заяву пракурору Баранавіцкага раёна, у якой паведаміў, што перавыбары Рады кірмашу адбыліся з парушэннем пастановы Рады Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14.04.2005 г. і таму з’яўляюцца несапраўднымі. Я прашу не толькі пракурорскага рэагавання на ўказанныя парушэнні заканадаўства, але і прызнаць гэтыя перавыбары незаконнымі, а вінаватых прыцягнуць да адпаведнай адказнасці,- паведаміў Мікалай Чарнавус.

Аляксей Пузікаў

## Брэсцкія студэнты патрабуюць кампенсацыю за жыллё



Прыблізна адна тысяча подпісаў сабраная пад зваротам брэсцкіх студэнтаў да мясцовых уладаў, у якім гучыць патрабаванне вырашыць пытанне з кампенсацыяй за жыллё тым, каму не хапіла месца ў інтэрнатах.

Гэтая праблема даўно ўжо набыла актуальнасць у брэсцкіх студэнтаў, але яны вырашылі дзейнічаць у адпаведнасці з пастановай урада, якім прадугледжана, што студэнты ў Мінску маюць права на кампенсацыю ў памеры трох базавых велічынь, а ў астатніх гарадах – двух базавых велічынь. Як высветлілася, з-за бюракратычных перашкодаў атрымаць нават такую невялікую суму фактычна нерэальна, таму студэнты і вырашылі скласці зварот да ўладаў.

З дапамогай згаданых 70 тысяч рублёў тыя, хто вучыцца ў ВНУ, могуць хоць трошкі палепшыць свой фінансавы стан, а ўжо пытанне пра арэндаванае жыллё (аднапакаёўка ў Брэсце абыходзіцца не меней чым у 100 долараў штомесяц) вырашаюць самастойна альбо з дапамогай бацькоў.

## Fokusvitryssland.se

Праваабарончая арганізацыя ў Стагкольме Цstgruppen запусьціла інфармацыйны онлайн-праект «У фокусе - Беларусь».

Мэта сайту — распаўсюд на швэдзкую аўдыторыю інфармацыі для пра сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.

www.spring96.org

# Украінскія грамадзяне імкнуцца дапамагчы сваім землякам у Баранавічах

Грамадзянін Украіны Канстанцін Хірылюк і яго сем аднавяскоўцаў з вёскі Вые гошчы Камянец-Кашырскага раёна накіравалі зварот да амбасадара Украіны ў Рэспубліцы Беларусь і дэпутата Валынскай абласной Рады Ігара Гузя, каб тыя аказалі дапамогу землякам у атрыманні месца пад помнік Тарасу Шаўчэнку ў Баранавічах і атрыманні імі памяшкання для ўкраінскай дыяспары "Кобзарь".

На думку Хірылюка, дыяспары украінцаў ёсць ва ўсім свеце, і ім дапамагаюць. Што такое дапамога землякоў выегошчанскія украінцы адчулі пад час знаходжання ў Баранавіцкай гарадской бальніцы, куды трапілі пасля аўтааварыі 12 студзеня. Кожны дзень іх наведвалі прадстаўнікі ўкраінскай дыяспары ў Баранавічах.

# Дэпутат падтрымаў украінскую дыяспару ў Баранавічах

Дэпутат Валынскай абласной рады Ігар Гузь падтрымаў украінскую дыяспару ў Баранавічах і яе кіраўніка Міколу Чарнавуса.




Ігар Гузь накіраваў дэпутацкі запыт ў Міністэрства замежных спраў Украіны, амбасадару Украіны ў Рэспубліцы Беларусь і Генеральнаму консулу Украіны ў Брэсце. Дэпутат Гузь звяртае ўвагу на нерэгістрацыю грамадскага аб'яднання "Кабзар" у Баранавічах, якому гарадскія ўлады адмаўляюць у памяшканні для юрыдычнага адрасу. А сам кіраўнік аб'яднання Мікола Чарнавус падвяргаецца пераследу за грамадскую дзейнасць.

Украінскі дэпутат просіць дзяржаўных асоб паспрыяць у атрыманні на ільготных умовах памяшкання для Баранавіцкага грамадскага аб'яднання "Кобзар" і спыненні пераследу Міколы Чарнавуса.

Ігар Гузь нагадвае, что на Украіне беларускім грамадскім арганізацыям арэнда памяшкання абыходзіцца 1 грыўну ў месяц, у той час, як з украінскай дыяспары ў Баранавічах толькі за магчымасць арэндаваць памяшканне праз аўкцыён патрабуюць 9 000 грывен – гэта 10 мільёнаў беларускіх рублёў.

Свой пратэст у падтрымку Чарнавуса выказаў і Дом украінцаў Берасцейшчыны.

# У Баранавічах пікетаваць супраць збяднення людзей забаронена




Старшыня Баранавіцкай гарадской арганізацыі партыі "Справядлівы свет" Віктар Цяпін атрымаў ліст, падпісаны намеснікам старшыні гарвыканкама Дз. Касцюкевічам, у якім паведамляецца, што Баранавіцкі гарвыканкам не дае дазволу на правядзенне пікету 28 студзеня супраць збяднення людзей.

У адказе чыноўніка сказана, што заяўнік парушыў артыкулы 5 і 6 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 № 114-З "Аб масавых мерапрыемствах" (у рэдакцыі Закона РБ ад 08.11.2011 № 308-З).

Планавалася, што ў пікеце возьмуць удзел каля 30 чалавек.

Раней Баранавіцкі гарвыканкам таксама забараніў пікеты, якія планавалі правесці грамадскія актывісты М. Чарнавус, Р.Грык, В. Сырыца, С. Гоўша і Р. Макарэвіч.

Аляксей Пузікаў

## Мікалай Аўтуховіч: «Хутка надыдуць перамены да лепшага!"



Ад зняволенага Мікалая Аўтуховіча прыйшоў ліст да яго аднадумца з Ваўкавыску Аляксандра Сезеня. У ім Аўтуховіч піша, што найбольш яго прыгнятае абыякавасць бальшыні суайчыннікаў, якія лічаць за лепшае не высоўвацца і моўчкі цярпець ганебны стан рэчаў, прыстасоўваючыся пад несправядлівую сістэму.

Уцэлым ліст Мікалая Аўтуховіча вытрыманы ў аптымістычным тоне. Ён выказвае ўпэўненасць, што па кроплі беларуская салідарнасць усё ж сфармуецца і хутка надыдуць перамены да лепшага.

www.spring96.org

## Міколу Чарнавуса з Баранавіч будуць судзіць

Грамадскі актывіст Мікола Чарнавус атрымаў позву ў суд на 3 лютага. Яго прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 23.39 КаАП РБ — самаўпраўства. Чыноўнікі Баранавіцкага гарвыканкама палічылі самаўпраўствам тое, што заяву на пікет на 25 студзеня Чарнавус напісаў як старшыня ГА ўкраінцаў у Баранавічах "Кобзар". Але, як лічыць Чарнавус, ён не сам сябе назначыў старшынёю, яго абралі людзі на ўстаноўчым сходзе. Па словах актывіста, судовы працэс замест дазволу на пікет баранавіцкія ўлады забяспечылі Чарнавусу не за самаўпраўства, а каб перашкодзіць яму ў змаганні за памяшканне для юрыдычнага адрасу аб'яднання, якое ўлады не даюць для ўкраінскай дыяспары ў Баранавічах.

Аляксей Пузікаў

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"
Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
Распаўсюджваецца бясплатна.
Накалад 299 асобнікаў.
ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ